# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**

**Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

**Адрыс Рэдакцыі:** **Цана 1 даляр, 50 цэнт.**

**"The Voice of the Church", 401 Atlantic Ave., Brooklyn, N. Y., 11217**

**№ 53** **КРАСАВІК — 1980 — APRIL** **Год 26**


## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ СЬВЯЧЭННАГА САБОРУ ЕПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

„І сказаў ім (апосталам): так напісана і так належала адцярпець Хрысту і ўваскроснуць на трэйці дзень" (Лук. 24-46).

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Любыя й Дарагія Браты і Сёстры!



З Вялікім і радасным Сьвятам Жыцьця, Надзеі, Перамогі, Радасьці і Шчасьця віншуем Вас ад Імя нашае Сьвятое Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы. Няхай у гэты слаўны Вялікі Дзень жыцьцятворчыя праменьні ажыўляюць і радуюць душы Вашыя, бо ўваскрос Той, пры Якога прарок Даніель сказаў: „Яму дадзена ўлада, слава і Ўладарства, каб усе народы служылі Яму, а Ўладарства Ягонае — ўладарства вечнае" (Дан. 7, 14).

Таму Ён, Збаўца наш, сказаў: „Я — Уваскрашэньне і жыцьцё, і хто верыць у Мяне, хоць і памрэ, жыць будзе" (Ін. 11, 25).

Ён зьявіўся сярод людзей, каб апавясьціць ім добрую навіну пра Ўладарства Божае і каб прапаведваць запалоненым звальненьне, сьляпым празрэньне, каб па-

цешыць усіх прыгнечаных і бяздольных, вярнуць змучаным бадзёрасьць, усьцешыць засмучаных сэрцам.

Пазваныя апосталы пайшлі за Ім і слухалі Ягоную навуку пра выбаўленьне грэшнікаў у гэтым сьвеце. Але сталася так, што Сына Чалавечага выдалі ворагам Праўды, якія Яго схапілі, зьняважылі, пабілі, несправядліва асудзілі на сьмерць, укрыжавалі на Галгофе, пахавалі і каля гробу варту паставілі, каб вучні таемна ня ўкралі цела і не сказалі людзям, што Ён уваскрос з мертвых. (Мацьв. 27, 64)

Гэтым слугі злыдня хацелі пахаваць Праўду Божую, але Бог Айцец уваскрасіў Яго і гэтым звольніў і ўсіх нас ад кайданоў сьмерці.

Раніцаю пасьля першага дня сыботы, у 14-ты дзень месяца нісана на вуліцах Ерусаліму загрымелі воклікі: „Хрыстос Уваскрос"! Пра гэта паведаміла перапалоханая варта, якая бегла ад гробу Хрыста, пра гэта гаварылі паміж сабою Жанчыны-Міраносіцы, якім зьявіўся ўваскросшы Хрыстос і прывітаў іх „Радуйцеся"! Страмцелыя-ж вучні — апосталы, — якія зыйшліся ў замкнутай Сынайскай сьвятліцы, даведаўшыся пра радасную вестку, паверылі толькі тады, калі Хрыстос зьявіўся да іх асабіста.

Дарагія Браты і Сёстры! І нашае становішча тут на эміграцыі ў пэўным сэнсе падобнае да становішча апосталаў. Ці-ж вынікі распачатае на эміграцыі нашае нацыянальнае працы, як у рэлігійнай, так і ў грамадзкай галіне не далі пэўнага плёну? Ці не пераканала нашае супрацоўніцтва тых, якія напрацягу стагодзьдзяў не прызнавалі нас, або ня ведалі пра існаваньне нашага Народу і нашае Бацькаўшчыны Беларусі? З другога боку, усякія нязгоды, сваркі, супярэчнасьці, падзел на ўгрупаваньні, як у рэлігійным, так і ў грамадзкім жыцьці, становяцца балючай перашкодай да братэрскага зьяднаньня ў жыцьці, як і зьяднаньня ў шчырай малітве.

Хрыстос Уваскрос і дараваў свабоду ўсім, хто верыць у Яго і моліцца ў сваёй роднае царкве. Таму ўзмацняйма Яе сваёю прысутнасьцю і шчыраю малітваю. Шануйма Яе і радуймася, бо з Ласкі Божае мы Яе аднавілі. Радуймася, як радавалася Маці Божая, калі Ангел Гасподні апавясьціў Ёй пра ўваскрасеньне Яе Сына. Радуймася ўсе так, як радаваліся Жанчыны-Міраносіцы, калі пачулі ад ангела вестку, што Хрыстос Уваскрос.

Шырака адчынім нашыя сэрцы, каб яны напоўніліся тою сьветлаю радасьцю Хрыстовага Ўваскрасеньня, якое змацняе нашую веру, агравае любоўю нашае жыцьцё і ажыўляе нашую надзею на лепшую будучыню. Упрыгожаныя хрысьціянскім міласэрдзем, нясем Вялікодную радасьць усім тым, якія Божае Ласкі, помачы і пацехі патрабуюць, а таксама ўсім тым, якія блудзяць у цемры няверства і абыякавасьці да веры Хрыстовае. Прасем Уваскросшага Хрыста, каб душы іхныя захаваў ад грэху і няволі.

З гэткімі нашымі разважаньнямі і малітвенымі пажаданьнямі сардэчна вітаем давераную нам паству і ўвесь Беларускі Народ з Вялікім і радасным Сьвятам — Уваскрасеньнем Хрыстовым — Вялікаднем!

Ласка, супакой і любоў Уваскросшага Госпада нашага Ісуса Хрыста і лучнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі, цяпер і ўсячасна і павек вякоў. Амін.

Пакорны ў Богу ✠ **Мітрапаліт Андрэй**
Пакорны ў Богу ✠ **Архіепіскап Мікалай**

Вялікдзень
Лета Божага 1980
м-ца сакавіка



*З ВЯЛІКАДНЕМ*

УВАСКРАСЕНЬНЯ ХРЫСТОВАГА

*Вітаем*

*Пачэсьнейшых Уладыкаў нашых*

*МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ*

*АРХІЕПІСКАПА МІКАЛАЯ,*

*Дастойнае Сьвятарства БАПЦарквы і ўцесь клер царкоўны,*
*Парафіяльныя Рады, Брацтвы і Сястрыцтвы,*
*Усіх вернікаў БАПЦарквы*
*і ўвесь Беларускі Народ на Радзіме і на чужыне.*

*ХРЫСТОС УВАСКРОС!* *ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС!*

*Рада БАПЦарквы*

**ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ**

**Кіраўніцтва Парахвіі й Парахвіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку паведамляе, што ў 10-ю гадавіну супачыўшага ў Богу сьветлай памяці**

**Архіепіскапа**

**ВАСІЛЯ**

**ў нядзелю 8-га чэрвеня будзе адслужана**

**ПАНІХІДА**

## ДАБРАВЕШЧАНЬНЕ ПРАСЬВЯТОЙ ДЗЕВЫ МАРЫІ

У гэтым годзе сьвята Дабравешчаньня прыпала разам з Вялікаднем і будзе сьвяткавацца на другі дзень Уваскрасеньня Хрыстовага.

У сьвятым пісьме гаворыцца: „Калі надыйшла поўня часу і наблізіўся час выбаўленьне роду чалавечага, Бог паслаў на зямлю Свайго Адзінароднага Сына". Была-ж на зямлі такая чыстая бязгрэшная Дзева, ад якое годна было ажыцьцявіцца Таму, Хто-б мог спрычыніцца да нашага збаўеньня. І гэтаю Дзеваю сталася Прасьвятая Дзева Марыя — дачка Якіма і Ганны, якія паходзілі з роду царскага і архірэйскага.

З верагодных крыніц даведваемся, што яшчэ да Архангельскага Дабравешчаньня Ёй было таемна паведамлена, што ад Яе народзіцца Бог-Слова. Ведамы царкоўны пісьменьнік 4-га стагодзьдзя, сьвяты Эпіфані, які быў Епіскапам на Кіпры, і сьв. Амброзі — пісьменьнік Міланскі, пісалі пра Яе, што яна адзначалася надзвычайным розумам і любіла чытаць сьв. кнігі. Георг Кэндрын — візантыйскі пісьменьнік апавядае, што Яна яшчэ пры жыцьці бацькоў добра студыявала гэбрайскія кнігі, і калі дачыталася да слоў прарока Ісайі — „Вось Дзева прыйме ў нутро і народзіць Сына; і дадуць імя Яму Эмануіл, гэта значыць — з намі Бог" (Іс. 7, 14), (Мац. 1, 23), Яна падумала: „Як-жа шчасьліваю будзе тая Дзева, якой выпадзе быць маткаю Госпада! Я хацела-б быць у яе хаця-б апошняю служанкаю".

Чытала Яна і кніжкі іншых прарокаў, якія гаварылі, што прыйдзе Вялікі Ўладар, вызваліць Ізраіль з няволі, і што гэты Уладар будзе з дому Давыда, і час Яго прыходу ўжо недалёкі. Бачачы вялікую бяду свайго народу, Яна часта станавілася на калені і сьлёзна прасіла Бога паслаць ім Збавіцеля. Молячыся да Госпада Бога, у Яе душы навет на мамэнт не паўставала думка, што час прыходу Збавіцеля ўжо настае, і што ад веку гэтым Каўчэгам Новага Запавету Воляй Божай прызначана стацца Ёй.

І вось у часе аднэй такой малітвы прад Ёю і зьявіўся пасланьнік Божы — Архангел Габрыель і сказаў: радуйся, Дабрадарная, Госпад з Табою! Дабраславёна Ты між жанчын". Марыя спужалася, не разумеючы слоў Ангела. Што гэта за прывітаньне, думала Яна? На гэта Архангел сказаў: „Ня бойся". Яна падняла вочы і пабачыла зьзяючае незямное аблічча Яго. „Ня бойся Марыя!" сказаў Ангел: — Госпад з Табою, бо Ты здабыла Ласку ў Бога. Ты зачнеш ў улоньні й народзіш Сына, і дасі імя Яму Ісус, Ён будзе вялікі і Сынам Усявышняга назавецца. Госпад Бог дасьць Яму Пасад Давыда, і Ўладарству Яго ня будзе канца."



Марыя, поўная ласкі й пакоры сьціпла пытаецца: — Як гэта можа стацца, калі я мужа ня знаю? Я прысягнула прад Госпадам Богам застацца назаўсёды Дзевай, як я магу стацца маткаю?" Яна гэтым ясна кажа Архангелу, што яна яго не разумее. На гэта адказвае Ёй Архангел: „Так, Ты ня знаеш мужа і ніколі не пазнаеш яго, а ўсё-ж станецца тое, што я Табе абвяшчаю, бо — Дух Сьвяты зыйдзе на Цябе і Сіла Ўсемагутнага ахіне Цябе. Таму і народжанае ад Цябе будзе сьвятым і Сынам Божым назавецца. Бо ў Бога няма нічога немагчымага. Таму таксама ведай, што Твая сваячка Альжбета, якая няплоднаю ўважаецца, зачала сына, і гэта ўжо 6-ты месяц у яе". (Гэта гаварылася пра зачацьце Яна, Хрысьціцеля)

Што магла адказаць Марыя на гэта? Толькі тое, што Яна і сказала: „Я слуга Господняя, няхай станецца подля слова Твайго", і адыйшоў ад Яе Архангел (Лук. 1, 24-38).

Такім чынам Госпад Бог споўніў тое, што абяцаў людзям яшчэ ў часе выгнаньня іх з раю. У ціхім пакойчыку ў Назарэце, скрыта ад сьвету, Творца наш пасяліў „ГАРЧЫЧНАЕ ЗЯРНЯТКА", зь якога мела вырасьці Сіла для абнаўленьня сьвету, зь якога паўстала Ўладарства Божае на зямлі. Народ Ізраэльскі думаў пра гэта, што Мэсія адновіць іхнае Ўладарства Давыда на зямлі, але Бог судзіў іначай. Бог дбаў не пра аднаўленьне царства Ізраэльскага, а пра абнаўленьні ўсіх людзей, усіх народаў. Ласка Духа Сьвятога мела стацца дабром усяго чалавецтва праз злучэньне ўсіх людзей у адну сям'ю пад аховай Збаўцы Нябеснага, як Уладара неба і зямлі, на векі. Таму і ўлада Яго, гэта ўлада Духа, для збаўленьня людзей ад усіх правінаў і несправядлівасьцяў. Гэтую місію мог выканаць толькі Той, хто сам бязгрэшны ёсьць.

Таму архангел Габрыель сказаў Прачыстай Дзеве Марыі, „Радуйся Дабрадарная, Госпад з Табою". Гэта значыць, што любоў Госпада Бога, Яго Ласка, Яго дабраславенства зыходзіць на Цябе... А што мы маглі-б сказаць пра цудоўную красу душы такой, якую так узьлюбіў Госпад Бог? Адказ можа быць толькі адзін: Яна мусіла зьзяць цудоўнымі цнотамі, Яна мела быць і была тою цудоўнаю скарбніцаю, у якой пасяліўся Дух Сьвяты, зь якое паўстаў Богачалавек Ісус Хрыстос, Збаўца наш.

Вялікая радасьць і гонар кажнае жанчыны быць маткаю. Быць маткаю нейкага вялікага чалавека ці караля, гэта вялікі гонар для маці! Але, што значыць гэтая радасьць, слава і гонар у параўнаньні з славаю Дзевы Марыі, Маткай Таго, Хто зьяўляецца Валадаром неба і зямлі, прад Кім становяцца на калені усе ўладары зямныя, Якому сьпяваюць гімны Ангелы нябесныя! Запраўды, „шчасьлівае нутро, якое Цябе насіла, і грудзі, якія Цябе кармілі".

Прачыстая Дзева Марыя гэта ідэал чысьціні і славы. Шмат тысячаў жанчын на сьвеце выдатна адзначыліся сваімі хрысьціянскімі цнотамі, але яны зьяўляюцца толькі зоркамі навакола яснага

# ПАТРЭБА КАЯНЬНЯ

Пакаяньне адчыні мне дзьверы жыцьцядаўца"... Гэтая песьня сьпяваецца ў царкве на Паранку і Літургіі, пачынаючы ад нядзелі Мытара і Фарысея аж да 5-ае нядзелі Вялікага Посту. І як толькі рэлігійны сьпеў яе даходзіць да нашага вуха, то адразу напамінае вернікам, што надыходзіць вялікі абавязак выкананьня сьв. Таінства Каяньня ў часе Вялікага Посту. Госпад наш Ісус Хрыстос, у часе Свайго зямнога жыцьця Сам дараваў правіны людзям. Ён бачачы веру чалавека казаў: „адпускаюцца табе грахі тваe" (Лук. 5, 20), або „дадзена мне ўсякая ўлада на небе і на зямлі" (Мацьв. 28, 18), г. з. улада адпушчаць грахі.

Перад узьнясеньнем на неба Хрыстос Сваю ўладу перадаў Сьв. Апосталам сказаўшы ім: „Прымеце Духа Сьвятога; каму адпусьціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім затрымаеце, на тым застануцца (Ян. XX, 22-23).

Першыя хрысьціяне запавет Хрыста пабожна выконвалі, і шмат іх прыходзіла вызнаваць свае грахі, апавядаючы нядобрыя ўчынкі свае (Дз XIX, 18).

Сьв. Апостал Ян Багаслоў пра неабходнасьць усім Таінства Каяньня казаў так: „Калі гаворыш, што ты ня маеш граху, сам сябе падманваеш, і няма ў цябе шчырасьці; калі вызнаём грахі нашыя, то Ён, Верны і Справядлівы, даруе нам грахі і ачысьціць нас ад ўсялякае няпраўды.

Апостал Павал у сваім пасланьні да Рымлянаў навучае, што праз грэх Адама і Евы мы ўсе знаходзімся ў стане грэху (першароднага), то дзеля гэтага, як праз аднаго чалавека ўвайшоў у сьвет грэх і праз грэх — сьмерць, гэтак і сьмерць прыйшла на ўсіх людзей, бо ў сьвеце ўсе зграшылі (Рым. 5, 12).

Адсюль відаць, што сьв. Таінства Каяньня ўстанавіў Сам Госпад, а нам, як абавязак, пераказалі яго сьв. Апосталы. Таму і належыць нам выконваць гэты абавязак, як Божую, а не людзкую ўстанову, і як адно з сямі Таінстваў Сьв. Хрыстовае Царквы. Таму належыць успрымаць Сьв. Таінства Каяньня вельмі паважна, бо згодна царкоўнае навукі праз Таінства беспасярэдня дзее Ласка Сьв. Духа.

А цяпер паставім пытаньне, што гэта ёсьць грэх? Грэх, гэта ёсьць чын нядобрых думак, дзеяньняў і словаў, што нязгодныя з воляй Божай і што супярэчаць Божаму Закону. Царква вучыць, што няма таго, хто жыве і не грашыў-бы, а таму праз Таінства Каяньня, адчыняюцца нам дзьверы да Міласэрнага Госпада. Дзеля таго сьведамасьць свайго грахоўнага стану і шчырае жаданьне пазбыцца грахоў, а далей устрымоўвацца ад правінаў, ёсьць першаю ўмоваю запраўднага каяньня, без чаго яно было-б нядзейным. Гэта кароткі пералік грахоў прад Богам, бо калі-б чалавек не саромеўся-б прад аблічам Усемагутнага і прад людзьмі, то няхай не саромеецца і вызнаць свае правіны прад абліччам Ўселітасьцівага. Таму, калі сьвятар, выслухаўшы споведзь, лічыць, што вызнаньне грэху было сумленным — то чытае малітву Адпушчэньня грахоў і адначасна адбываецца дзеяньне Сьв. Духа, ачышчаючы грэшніка, калі споведзь была запраўднаю.

Найбольш адпаведным часам для выкананьня сьв. Споведзі ўважаецца пост, а асабліва Вялікі Пост перад Вялікаднем, бо пост ёсьць часткаю асаблівых хрысьціянскіх учынаў, да якіх і належыць сьв. Споведзь, якая ў спалучэньні з постам і малітваю ёсьць тою магутнаю зброяй для перамогі злога духа. Пра гэта гаворыць нам навука Збавіцеля, у словах: „Гэты род выганяецца толькі малітваю і постам (Мацьв. 17, 21). Таму кожны павінен прыняць Таінства споведзі хоць адзін раз на год.

---

сонца! Дзева-ж Марыя ёсьць гонарам і славаю жаночага роду, бо праз Яе ўвесь род чалавечы падняты да высотаў нябесных.

„Я слуга Госпада, няхай станецца мне подля слова Твайго", сказала Дзева Марыя. Што азначаюць гэтыя словы? Яны былі асновай усіх цнотаў Прачыстае. Гэта і ёсьць Ейнаю пакораю і чысьцінёю, ідэалам кожнае жанчыны, дадзеным, як прыклад, Дзеваю Марыяй. Праз чысьціню і пакору знайходзілі і звычайныя жанчыны шлях да сэрца Яе. Бо Яна тая, якая стаяла пад Крыжам пакутаў Сына Свайго, а таму добра разумее ўсякую бяду, ўсякую боль заплаканых матак ці жанчынаў наагул. З вялікаю ахвотаю сьпяшаецца Яна высушыць сьлёзы ўсіх няшчасных, узмоцніць сэрцы іх, аблягчыць часам наш цяжкі жыцьцёвы крыж і Сваёю нябачнаю рукою пацешыць, як Братоў і Сёстру Сваіх.

Таму ня дзіва, што мы часта ў сваёй бядзе, у радасьці і ў горы, у шчасьці й няшчасьці сьпяшаемся малітвена да Яе, Нябеснае Маці свае. І Яна, Нябесная Маці нашая, плача і цешыцца разам з намі, ахінае нас цудоўным Амафорам Сваім, узмацняе, памагае, пацяшае надзеяй і, як дзяцей пацяшае нас.

Таму ўсе мы становімся на калені прад Яе сьвятым Абразом, просім Ласкі Яе.

Таму нашыя сэрцы з нявымоўнаю пашанаю заўсёды павінны зварачацца да Яе і прамаўляць: „О, Прачыстая і Дабраславёная, Божая Маці нашая, будзь Міласэрнаю да нас! Глянь на бяду і гора нашае! Ахіні нас цудадзейным Амафорам Тваім! Памажы нам і нашаму гаротнаму Народу перажыць нядолю. Успамажы, збаў нас прад Прастолам Сына Твайго Збаўцы нашага, каб мы маглі праслаўляць Імя Твае ўсім сэрцам нашым і чыніць ўва ўсім волю Тваю.

# АСНОВЫ РЭЛІГІІ

## (Паводля філязофіі нямецкага філёзафа Шэльлінга)

Існуе Дух, жывы прынцып універсальнага Космасу — Сусьвету. Ен абыймае Сусьвет усюды, жыве ўва ўсім, і ўсім разумным істотам дае магчымасьць жыцьця і больш таго — прымушае іх да разважаньняў. Сам ён зьяўляецца асноваю ўсяго і ёсьць розумам людзкога мозгу, розумам нашае маці-зямлі. Зямля-ж ёсьць толькі маленькім атомам, пясчынкаю Космасу, а чалавек — гэта антэна універсальнага мозгу, матору сусьвету.

Ня толькі вялікія людзі стараліся зразумець гэтую найвышэйшую Праўду жыцьця, але і звычайныя, простыя людзі ад вякоў шанавалі нейкае няведамае ім боства, якое яны называлі Вялікім Духам.

Бо-ж існуе толькі адзін вялікі Універсальны дух, незалежна ад таго, як яго хто называе: Найвышэйшай Творчай, Дасканалай Інтэлігенцыяй, Брамаю, Яговаю, Аллахам, — ці Богам! У аснове сваей, усе гэтыя назовы ці паняцьці разумеюць адно й тое самае: ВЕЧНАГА, НЯЗЬМЕННАГА, ЛАСКАВАГА, ПРАМУДРАГА, НЯБЕСНАГА АЙЦА! Гэты абсалютны Дух кіруе нашым разьвіцьцём (Эвалюцыяй),пранікае сабою ўсе нашыя думкі, удалікатняе нас, падымае на вышэйшы ўзровень. І кожны з нас часам добра адчувае, што ён так ці йнчай, залежыць ад нейкае вышэйшае сілы, якая напаўняе яго, прымушае разважаць, сябе кантраляваць, думаць у тым ці іншым кірунку.

Жыцьцё ёсьць вечным. Нашая душа гэта толькі іскра абсалютнага Духа.І паводля таго, як чалавецтва удасканаленае, і душа нашая мае ўжо пры сваім зьяўленьні на сьвет пэўныя ведамкі, пэўныя пазнаньні з мінулага й сучаснага; і, з аднаго боку, ўзбагачаецца новымі досьледамі і ведаю, а з другога боку — бяднее, бо многа доследаў з галіны духа продкаў нашых мы страцілі, дзякуючы таму, што ўжо ад даўжэйшага часу галоўную сваю ўвагу мы звярачаем на праблемы матэрыі. І тут цяпер сіла, але і нашая слабасьць. Сіла ў тым, што мы глыбей пазнаўшы матэрыю, адкрываем гэтым крыніцы духа, а слабасьць у тым, што гэты мамэнт духа для сучаснае навукі — другарадны, пабочны, часам навет непажаданы; таму мы страцілі шмат нязвычайна важных для нас досьледаў сівога мінулага, і дзеля гэтага маем такую сумную сучаснасьць і нязвычайна вялікую небясьпеку ў будучыні.

Было ўжо даўно, і асабліва ёсьць цяпер перад намі пытаньне жыцьцёвае вагі: адкуль мы зьявіліся на сьвеце, для чаго жывём і што станецца пасьля сьмерці нашае? Шмат вялікіх людзей ламалі сабе галовы над гэтымі пытаньнямі, як і над пытаньнем душы нашае. Многія жадалі знайсьці яе, ізаляваць, навет зважыць. І таму, што не пабачылі яе, вырашылі, што яе няма. Для такіх можам сказаць: усе вялікія сілы мы ня можам бачыць, а тымчасам ці нехта можа сказаць, что ня існуюць такія сілы, як вецер, электрычнасьць? Гэтыя вялікія сілы рухаюць машынамі, гарамі, акіянамі, а тымчасам ніхто іх ня бачыць; а што ўжо гаварыць пра сілу атамовае энэргіі? Нашае цела таксама прасякнута электрычнасьцяй, а хто з нас бачыць яго? Можа нехта скажа, што гэта можна сьцьвердзіць прыладамі. Добра, так, але падумайма сабе: ці бяз прыладаў яе там ня было-б? А ёсьць шмат больш прыладаў, якія ясна паказваюць нам, што ў нас акрамя цела існуе таксама іншая рэч, рэч, якая судзіць нас на кожным кроку, перасьцерагае, памагае, падымае з найбольшага ўпадку, рэгіструе рэчы, якіх мы часта не спасьцерагаем ані нашым розумам, ані нашай сьведамасьцю, ніякім нашым мазгом, а пазьней, часам пасьля доўгіх гадоў, прыпамінае нам пра тое, што некалі сталася. А што ўжо гаварыць пра тое, што мы часта робім ня тое, што хочам, што наш розум, наш мозаг нам дыктуе, а робім насуперак ім, супраць гэтай нашай матар'яльнай часткі, навет на шкоду ёй; і тут абыякава, ці гэта мы робім на дабро, або на зло. Для нас тут важна толькі сьцьвердзіць, што ў нас існуюць дзьве часткі: матар'яльная і духовая! І нам усім добра ведама таксама, што сапраўдную славу, пашану і любоў здабывае ня той, хто кіруецца сваёю матар'яльнаю часткаю, а той, хто кіруецца часткаю духоваю!

Гэтая галіна сучаснае веды ёсьць духовай часткай чалавека. Душа яго ўжо ад даўжэйшага часу знаходзіцца ў вялікім заняпадзе, на вялікую шкоду ўсяго чалавецтва. Дзякаваць Богу сучасныя найбольшыя вучоныя пачалі зьвяртаць на яе ўвагу, і мы маем ўжо добрыя вынікі. Вось жа здабыць крыху сьвятла ў гэтае галіне, і будзе заданьнем нашых тут размоваў, бяручы асабліва на увагу той факт, што ўсё больш сучасных вучоных і дзяржаўных мужоў пачынаюць варачацца назад ад рэлігіі, да Бога!

## ПРА ЖЫЦЬЦЁ

Ужо даўно існуе імкненьне пазнаць Праўду жыцьця, каб гэта выкарыстаць на дабро і шчасьце чалавецтва. Пазнаць жыцьцё, чым яно ў запраўнасьці ёсьць, вось вялікае заданьне, якое ўсьцяж стаіць перад нашым розумам.

Найбольшым маестатам прыроды ёсьць тварэньне жыцьця. Гляньма на дрэвы ўлетку зь ягонымі раскрытымі лісьцямі, як яно, як ротам, ловіць сонечныя праменьні, ды шляхам асымілюючых працэсаў творыць з няжывой матэрыі арганічнае жыцьцё. Такія арганічныя працэсы адбываюцца мэханічна, без разумных разважаньняў, прыходзяць паводля непарушных законаў прыроды. Але

чалавек, як жывая і разумная істота, працуе ня толькі над захаваньнем сябе ці свайго роду, але адначасна і пазнае Законы прыроды, і выкарыстоўвае іх для свайго дабра. І гэта зразумела і карысна ды згодна з воляй і Законамі Божымі.

У свой час сярод вучоных панавала цьверджаньне: „Ігнарамус эт ігнарабімус" (ня ведаем і ня будзем ведаць). Чаму? Бо перад іхнымі вачамі адкрыліся такія вялікія тайны прыроды, прад якімі яны з сваім людзкім розумам сталі бязрадныя, перапужаліся, адчулі сябе вельмі малымі і слабымі прад Маестатам Абсалютнага Духа і Тварца, тым балей, што яны гэтым сваім людзкім розумам хацелі пазнаць абсалютную прычыну і аснову жыцьця. Бязумоўна, для нашага людзкога розуму гэтае заданьне было і ёсьць невырашальным. Наш розум можа і павінен старацца толькі прыблізіцца да гэтае Праўды, каб людзі не выступалі, ня дзеялі супроць яе, каб наш розум, як дар Божы, не працаваў на ўласную шкоду, што вельмі часта, нажаль, здараецца, ды людзі з вялікім зьдзіўленьнем адкрываюць вочы і пытаюцца: як гэта магчыма, што наш розум цяпер такі моцны, нашая навука такая дасканалая, а — столькі бяды на сьвеце"! Так вось нашыя ўласныя перажываньні й балючыя досьледы ясна кажуць нам, што розум людзкі, людзкая навука ў апошнія часы зыйшлі з праўдзівага шляху, ды замест прыблізіць нас да пазнаньня праўды жыцьця, завялі нас ў сьляпы завулак. І людзі з трывогай пытаюцца: дзе выхад? дзе ратунак?

## ЗАЛЕЖНАСЬЦЬ І НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

Кожны з нас напэўна ўжо ці раз думаў пра пачатак, разьвіцьцё і занік жыцьця. Напэўна думалі таксама і пра тое, ці гэта толькі прыпадкова зьявілася жыцьцё на зямлі і мы ў тым ліку? Біялёгія акрэсьлівае жыцьцё як насьледак пэўных, неабходных нязьменных прычынаў, дзеючых сярод матэрыі і энэргіі. Але, як паўстала жыцьцё наагул, ніякая навука тымчасам нам ня выясьніла.

Існуюць толькі тры асноўныя тэорыі зьяўленьня жыцьця наагул: 1) жыцьцё зьявілася прыпадкова, 2) зародкі жыцьця былі перанесеныя на зямлю з космасу і зь іншых плянэтаў, 3) жыцьцё паўстала на зямлі з Абсалютнага Духа-Бога.

Зьвернем тут нашую ўвагу галоўным чынам на значэньне і мэтазгоднасьць зьяўленьня жыцьця. Сучасная навука канчальна адкінула дзьве першыя тэорыі. Трэба сказаць, што другая тэорыя нічога не выясьняе, бо-ж, калі зародкі жыцьця навет былі-б перанесеныя на зямлю, дык паўстае далейшае пытаньне; а хто іх там стварыў? Так або іначай застаецца ясным, што існуе Прамудры Абсалютны Дух, Каторы й стварыў жыцьцё на сьвеце. Розныя філязофскія сыстэмы могуць толькі ўводзіць наш розум у блуд, але



Праўды нам не дадуць, бо-ж без Абсалютнага Духа немагчымыя ніякія законы, якія вучоныя адкрываюць на кожным кроку. Нашая звычайная інтуіцыя кажа нам, што без Стваральніка, без Законадаўцы немагчымая ніякая гармонія ў сьвеце, бо-ж ніякае найлепшае аўта ня можа навет праз вуліцу прасунуцца само сабою. І так, як у музыцы сымфонію зразумее і ўспрымае толькі той, хто знаходзіцца ў гармоніі зь ёю і з кажнаю паасобнаю яе часткаю, так і Праўду жыцьця зразумее і ўспрыме толькі той, хто знаходзіцца ў гармоніі з Найвышэйшым Абсалютам — Богам.

Так як расьліне неабходнае цяпло і вільгаць, так для нашага нутранога супакою неабходна пазнаньне запраўдных асноваў і мэтазгоднасьці жыцьця. Тут вылучаецца ўсякі дэспатызм і гвалт, а на іх месца прыходзіць вера і праўда, якія робяць чалавека незалежным і свабодным. А свабода гэта неабходная перадумова нашага пазнаньня, і гэтая свабода вядзе чалавека і народ да паважнейшых мэтаў. Праз пазнаньне пачынаецца й паглыбляецца духовая сіла адзінкі, і гэта ўспамагае галоўным мэтам, каб нашыя думкі і размовы ўзбагачалі скарбы нашага духа. Духовыя скарбы чалавека становяць аснову ягонае мудрасьці, што з свайго боку становіцца дасканальнасьцю і праўдай і асновамі свабоды. Бо-ж для чалавека, які ня мае асноваў дасканаласьці, праўды і мэтаў жыцьця, свабода будзе нязвычайна небясьпечнаю і шкоднаю зброяю, бо зацемнены розум чалавека ня можа разумна разважаць і дзеяць, а таму звычайна прыносіць толькі згубныя насьледкі. Разумны чалавек сваёй зброяй нішчыць дзікіх шкодных зьвяроў, тады як зброя ў руках засьлепленага, або дзіцяці, заўсёды ёсьць страшным злом і няшчасьцем.

(Працяг будзе)



## ЗЬМЕНА ГЭРАРХА Ў МЕНСКУ

Пасьля раптоўнае сьмерці Мітрапаліта Ленінградзкага й Ноўгарадзкага Нікадыма, на ягонае месца прызначаны Мітрапаліт Антоні Менскі — параўнальна малады чалавек: яму 53 гады. Ён вядомы сваімі экумэнічнымі сувязямі з англіканскімі і іншымі веравызнаньнямі, сувязямі, пранікаўшымі навет у далёкую Афрыку. Зварачае на сябе ўвагу той факт, што замяніў ён Мітрапаліта Нікадыма ня поўнасьцю, бо не атрымаў кіраўніцтва Камісіі ў пытаньні Хрысьціянскага Адзінства, як таксама ня прызначаны Экзархам усіх Маскоўскіх прыходаў у Заходняй Эўропе.

На Менскую і Беларускую катэдру прызначаны Мітрапаліт Бэрлінскі Філарэт (Вархамееў), які мае толькі 43 гады. Імя яго часта ўспамінаецца ў „Журнале Московской Патриархии" ў сувязі з рознымі экумэнічнымі здарэньнямі. Новае высокае становішча можа цяпер у значнай меры ўмацаваць ягоныя экумэнічныя сувязі і зрабіць услужным дзеячом Маскоўскае Патрыярхіі.

# З ГІСТОРЫІ ЕФРАСІНЕЎСКАЙ ЦАРКВЫ СЬВЯТОГА СПАСА Ў ПОЛАЦКУ

Калі-б паставіць пытаньне, да якой з пабудаваных сьвятыняў на Беларусі можна-б прыкласьці назоў — Нацыянальная —, то, пэўна, адразу скіравалася-б увага на Ефрасінеўскую Царкву-Сабор у Спасаўскім Ефрасінеўскім манастыры ў Полацку. Прамаўляе за гэта яе век — звыш 800 гадоў, яе ўстойлівая моц, захаваньне да нашага часу, месца пабудовы — Полацак, даўнейшая наша сталіца, і будова на заказ Сьв. Ефрасіні Полацкай.

Будаваў царкву свой будаўнічы, дойлід Ян. Дакладнейшых вестак пра яго паходжаньне і жыцьцё няма. У кнізе Алексеева — „Полацкая зямля", выданьне Акадэміі Навук СССР (Масква, 1966) — пра яго гаворыцца: „У 20-30-х гадох XII веку, у адным з полацкіх манастыроў выявіўся будаўнічы-манах Ян, з нязвычайна самабытным талентам. Яму, як далося ўсталіць, належыць пабудова ў Полацку ня менш 3-х цэркваў... Пошукі новых арыгінальных канструкцыяў... вядуць Яна да вышэйшага яго дасягненьня — Царквы Ефрасіні... І толькі вырашэньне, знойдзенае полацкім будаўнічым у царкве Ефрасіні, аказалася дакладным: храм стаіць у абсалютна поўнай захаванасьці і да сёньняшняга дня. Майстроўства полацкіх будаўнічых, мы бачым, карысталася папулярнасьцю ў суседніх землях".

Некаторыя гістарычныя весткі пра Царкву Сьвятога Спаса ў Полацку пададзены ў „Весьці Акадэміі Навук БССР" — № 4 з 1979 году ў артыкуле „Рэканструкцыя фрэсак Спаскага Сабору ў Полацку", які пачынаецца сказамі: „На тэрыторыі Беларусі амаль што адзінай скарбніцай старажытнага мастацтва фрэскі XII веку зьяўляецца горад Полацак. Яго храмы былі багата расьпісаны фрэскавым жывапісам, які прыцягвае дасьледчыкаў сваёй непаўторнай самабытнасьцю".

Пра ўласьцівую чыннасьць царкоўную Царквы Сьв. Спаса не падаецца ні слова, з прычын ведамых, бальшавіцкіх. Але, як відаць, Божых Службаў у памянёнай Царкве-Сабору не адбывалася, прынамсі, і напэўна, ад часу захопу ўладай Ленінскай.

Далей падаецца: „Царква была пабудавана на заказ Полацкай князёўны-манахіні Ефрасіні ў канцы першай палавіны XII-га стагодзьдзя. Знаходзіцца яна на паўночнай ускраіне Полацка, на правым узвышаным беразе ракі Палаты. Лёс храму непадзельна зьвязаны з гісторыяй гораду, які перанёс многа нягод. Зьвестак з гісторыі ўласна царквы да нас дайшло мала".

Трэба дадаць да гэтага, што лёс храму зьвязаны як з гісторыяй гораду, так і з гісторыяй беларускага народу, „які перанёс многа нягод". Але як-бы ні было, перажыўшы розныя нягоды, а нарэшце і зьдзеклівасьці, псоты і ганьбеньні, Царква Сьвятога Спаса ўвайшла ў дзявятае сталецьце свайго існаваньня. Будынак мае вельмі грубыя сьцены і моцныя падставы. Можа гэта спрычынілася, што бальшавікі не адважыліся пусьціць на яе сваю руйнуючую „шар-бабу"...

„У 1832 годзе — гаворыцца ў „Весьцях": „Царква Спаса была перададзена ў распараджэньне грэка-расійскага духавенства, а раней, з часу заваяваньня гораду Стэфанам Баторым (1579 г.) і да 1820 году была ў руках езуітаў. Подля сьветчаньня А. Сапунова (беларускі гісторык), „Царква была ў самым няпрыглядным стане і патрабавала рамонту. У студзені 1832 году царкву наведаў епіскап магілеўскі й віцебскі Гаўрыіл. Ён зра-





*Спасаўскі Сабор Ефрасінеўскага манастыра ў Полацку. Агульны від з боку рэчкі Палаты; каля 1161 г. (фота Аляксеева)*

зумеў архітэктурную каштоўнасьць збудаваньня і мастацкую вартасьць старадаўных росьпісаў і хадайнічаў за рэстаўрацыю царквы ,і пісаў: „Спаская Царква, нягледзячы, што яна існуе каля сямісот гадоў (Ведама, гэта пісана ў першай палове мінулага стагодзьдзя — рэд.), захавала як знадворку, так і знутры, непазбыўныя прыкметы каштоўнай сьвячэннай старыны; архітэктура, нязвычайная таўшчыня сьцен з малымі вузкімі вокнамі, нутраное іканапісаньне, росьпіс усей царквы ў старадаўным грэцкім гусьце з надпісамі старажытнага пісьма носяць на сабе жывы адбітак таго стагодзьдзя, да якога адносяць гістарычныя зьвесткі пабудову гэтай царквы... Дах гэтай царквы даволі стары, і царква можа атрымаць пашкоджаньне ў сьценах або ў жывапісе, які захаваўся да цяперашняга часу".

Далей гаворыцца: „Для рамонту царквы быў накіраваны архітэктар А. Порта. Ён апісаў стан царквы да рамонту, намеціў неабходныя выпраўленьні, зрабіў вопіс выкананых работ і прыёму царквы. Пры апісаньні ўрачыстасьцяў з прычыны асьвячэньня царквы епіскап Капаевіч гаварыў пра ганьбаваньні ад езуітаў і іх параемнікаў піяраў.

„Першыя... імкнучыся ўсяляк зглядзіць у гэтым храме сьляды Праваслаўя, вынішчалі ўсё мастацтва, каб закрыць зусім увесь корсунскі жывапіс яго, а апошнія... чым толькі маглі, абязьлічвалі абразы сьвятых, але ня гледзячы на ўсё гэта, усё сьвяшчэннае гэтага цікавага помніку глыбокай даўніны... **захавалася да гэтага часу ў такой яснасьці, што ўсе спробы, ужытыя для закрыцьця і абязьлічаньня жывапісу так чыста адпалі, што ўсе надпісы сьвятых як-бы ўчора яшчэ напісаныя.** (Падкрэсьленьне нашае — рэд.).

„У справе рамонту Спаскае царквы знайходзіцца цікавы дакумант

пад назвай „Мэтрыка для атрыманьня дакладных зьвестак аб старажытных праваслаўных храмах, будынках і мастацкіх прадметах, складзеная з ініцыятывы Санкт-Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў у 1887 годзе на Царкву Спаса ў Полацку. У разьдзеле V „Іканапісаньне" аўтар дае цікавыя для нас зьвесткі аб фрэсках царквы: „Сьцены царкоўныя расьпісаныя жывапісным пісьмом. Надпісаў аб часе росьпісу царквы на сьценах няма. Пасьля выгнаньня езуітаў у 1821 годзе ў апісваемай царкве ўвесь насьценны жывапіс быў зафарбаваны пластом белай вапны, якая ў многіх месцах абвалілася. У 1835 годзе пласт вапны, які закрываў насьценны жывапіс, быў старання зьняты, і жывапіс быў узноўлен у тым выглядзе, у якім існаваў ён да перадачы царквы езуітам. Царква расьпісана ўся".

„Старажытны жывапіс, як бачым, да 1887 году быў яшчэ ня зусім затынкаваны. Гэта сьцьвярджае і М. В. Пакроўскі, які рыхтаваў матар'ялы да VII археалягічнага зьезду, што павінен быў адбыцца ў Яраслаўлі ў 1887 г. У яго ёсьць упаміналньні аб старажытным жывапісе Спаскае Царквы.

„Наступныя перапрабкі назусім схавалі старажытны жывапіс. Асабліва па-варварску быў зроблены самавольны рамонт сабору ў 1914 годзе. У „Вытрымцы" з рапарту акадэміка П. П. Пакрышкіна запісана: „Знешні рамонт гэтай царквы і драўлянай падлогі ўнутры ўжо выкананы, прычым барабан купалу пафарбаваны шэрай масьлянай фарбай, сьцены чацьверыка пабеленыя, а ніз — панэль, афарбавана чорнай фарбай... Нечага і казаць, што такая размалёўка зусім недарэчная ў гэтым рэдкім помніку Полацкай вялікакняскай архітэктуры. Унутры царква ў нядаўны час папсавана дрэнным масьляным сьценапісам". Значыць, к гэтаму часу (1914 год) старажытныя фрэскавыя росьпісы поўнасьцю затынкаваныя.

„Зноў пра фрэскі даведаліся толькі ў 1929 годзе. У Полацак прыяжджае экспэдыцыя маскоўскіх навукова-рэстаўрацыйных майстэрань на чале з акадэмікам Грабарам. Былі праведзены пробныя расчысткі. Выдатны мастацтвазнаўца, уражаны ўбачаным у Полацкіх храмах, адпраўляе ў Маскву захоплены водгук: „Тут аказалася столькі фрэсак XII стагодзьдзя, магчыма ,самых раньніх з усіх, акрамя кіеўскіх. Матэрыял велізарнай важнасьці і абсалютна невядомы".

Далей гаворыцца пра некаторыя адкрытыя фрэскі. Здымкі з дзьвёх фрэсак былі зьмешчаныя ў № 35 Голасу Царквы. Таксама ўспамінаецца пра фрэску сьвятога: „На сіне-зялёным фоне намалявана фігура сьвятога ў охрыста-чырвоным адзеньні, якое спадае добра прамаляванымі складкамі да падлогі. У левай руцэ ён трымае разгорнуты скрутак, твар охрыста-жоўтага колеру, абрамлены невялікай барадой, упэўнены спакойны позірк, каля галавы німб. Фрэска даволі жывапісная. Ёсьць меркаваньні, што гэта фігура першага епіскапа полацкага Міны. (каля 1104), ведамага гісторыі. Меркаваньне гэта пакуль не даказана.

Гаворыцца таксама пра тры фрэскі сьвятых на паўднёвай сьцяне храму Праўдападабней гэта адабражэньні Сьвятой Ефрасіні Полацкай... „Асабліва вылучаецца сярэдні паміж імі вобраз. Амаль фанатычны позірк шырока адкрытых вачэй, дакладна акрэсьлен авал твару, выдзелены бровы, нос і шчыльна сьціснутыя вусны. Зеленавата-жоўты колер твару, каля галавы жаўтавата-чырвоны німб. (Здымак гэтае фрэскі зьмяшчаны на балонцы 15.).

У высновах артыкулу пра рэканструкцыю фрэсак, гаворыцца:

„На падставе гэтага магчыма ўявіць, што Спаская Царква была ўпрыгожана пры жыцьці Ефрасіні, а фрэскавы жывапіс мог быць выкананы пад яе наглядам. Становіцца зразумелым і той уплыў Візантыі, які меў





*Фрэска „Святая ў схіме" на паўднёвай сцяне*

месца ў сьценапісе храму. Аднак, аддаючы належнае адукаванасьці княжны Ефрасіні і яе высокім запатрабаваньням, неабходна ўлічваць, што полацкае мастацтва высьпявала спакваля, на высокай эканамічнай аснове княства. Разьвіваючыся разам з архітэктурай (Сафійскі Сабор, Бельчыцкія храмы і іх росьпісы), фрэскавы жывапіс на сьценах Спаскага храму Полацка дасягнуў таго найвышэйшага росквіту, пра які мы сёньня ведаем. Тут ён выступае як зусім афармлены самастойнае мастацтва гораду.

І далей гаворыцца: „Відавочна, што працаваў тут не адзін мастак, але арцель, якой кіраваў майстар высокага класу. Майстар, бязумоўна, быў знаёмы з візантыйскім мастацтвам, але тут не знайсьці ні абсалютна візантыйскага, ні поўнага падабенства да кіеўскіх ці тым больш ноўгарадзкіх сьценапісаў. Візантыйская жывапісная манера, страчваючы суровы аскетызм і абсалютную адмежаванасьць, набывае тут велічны спакой, індывідуальнасьць у ліках сьвятых, свой народны характар.

„Высока ацэньваючы мастацтва полацкай фрэскі, савецкая мастацтвазнаўца Т. В. Нікалаева піша: „Нельга сёньня напісаць гісторыю мастацтва, ня ўлічыўшы такіх мастацкіх твораў, як фрэскі Спаскай Царквы Ефрасінеўскага манастыра ў Полацку. Фрэскі Спаскай Царквы глыбінёй велічных і адухоўленых вобразаў становяцца ў рад выдатных твораў чалавецтва"...

„Таму мы маем права шукаць у сьценапісах канкрэтныя асобы і падзеі, і з поўнай падставай можам сьцьвярджаць, што на сьценах Спаса — Ефрасінеўскай царквы выпісана часьцінка гісторыі Полацка".

Хочацца і трэба верыць, што Спаса-Ефрасінеўская Царква ажыве да прызначанага Ёй служэньня Богу й людзям.

## КАРОТКІ АГЛЯД РЭЛІГІЙНЫХ ПАДЗЕЯЎ У СЬВЕЦЕ

### Спатканьне Папы Рымскага з Сьвяцейшым Ўсяленскім Патрыярхам Дымітрыем.

Спатканьне адбылося ў Канстантынопалі ў месяцы лістападзе 1979 году. Гэта было чарговае спатканьне Галоў Каталіцкае і Праваслаўнае Цэркваў, з ініцыятывы Папы, у справе паяднаньня цэркваў.

Першае спатканьне Першагэрархаў адбылося на Сьвятой зямлі — Папы Паўла І-га з Патрыярхам Атэнагорасам — у 1964 годзе. Другі раз Першагэрархі спатыкаліся ў Канстантынопалі ў 1967 годзе.

Таму ня было дзіўным, што Папа Ян Павал ІІ-гі, адведаўшы пасьля інтранізацыі каталікоў Караібскага абшару, Ірляндыі, Амэрыкі і Польшчу, пасьпяшаўся сустрэцца з Галавою Ўсяленскае Праваслаўнае Царквы — Сьвяцейшым Патрыярхам Дымітрыем І-ым.

Атрыманьне дазволу на ўезд у Турэччыну Папы напачатку натрафіла на пэўныя перашкоды з боку афіцыйных турэцкіх чыньнікаў, якія сьцерагліся, каб праз прыезд Папы ня выклікаць незадаваленьня Масквы, бо прыезд Папы да Патрыярха Канстантынопальскага ставіў на другараднае мейсца Патрыярха Маскоўскага. Аднак урад турэцкі пагадзіўся на прыезд Папы, паставіўшы некаторыя ўмовы. Праграма пабыту Папы ў Турэччыне была дапасаваная да звычайнай візыты кіраўніка іншае дзяржавы, бо-ж Папа зьяўляецца адначасна і галавою Ватыканскае Дзяржавы. Таму Папа, прыляцеўшы ў сталіцу Турэччыны — Анкару, напачатку павінен быў спаткацца з прэзыдэнтам і турэцкімі ўрадавымі чыньнікамі, што скараціла Ягоны пабыт у Турэччыне да трох дзён.

Першая сустрэча Папы з Усяленскім Патрыярхам адбылася ў Рыма-Каталіцкай Катэдры ў Канстантынопалі, а не ў Фанары, дзе зьмяшчаецца Ўсяленская Патрыярхія, а таму на размовы Папы з Патрыярхам прыпала толькі некалькі гадзін.

Служба Божая адбылася ў Патрыяршай Катэдры Сьвятога Юрыя на Фанары. Багаслужбу адпраўляў Сьвяцейшы Патрыярх Дымітры ў суслужэньні 12 Мітрапалітаў. Папа быў толькі прысутным на Багаслужбе. Пасьля прычасьця правячых Багаслужбу, дыякан паднёс Дастойнаму Госьцю прасфорку ў знак пашаны і любові ў Хрысьце.

Яшчэ перад сустрэчаю Папы з Усяленскім Патрыярхам, ватыканская прэса афіцыйна паведамляла пра маючую адбыцца гістарычную падзею паяднаньня Праваслаўнае Царквы з Каталіцкай, маючы надзею, што гэта можа быць апошні акт злучэньня тых цэркваў у адну Царкву. Зразумела, да таго не дайшло і не магло дайсьці, бо аб'яднаньне можа стацца толькі пасьля пастановы Ўсяленскім Саборам Праваслаўнае і Каталіцкае Царквы, а не праз дамоўленьне ўзначальваючых тыя Цэрквы.

Як ведама, ужо хутка мінае чвэрць стагодзьдзя, як над справаю скліканьня Ўсяленскага Праваслаўнага Сабору працуе Перадсаборная Камісія, і, відаць, няма канца тэй працы, а толькі таму, што часткова працу Камісіі ўстрымлівае Маскоўская Патрыярхія.

Таму сяньня можна сказаць толькі тое, што сустрэча Папы з Усяленскім Патрыярхам была кароткім фрагмэнтам у дыпляматычна-турыстычным падарожжы Папы ў Турэччыну і адзначылася вызначэньнем спэцыяльнае Камісіі для праводжаньня далейшага дыялёгу ў справах дагматычных.



## НАРАДЫ КІРАЎНІЦТВА УКРАІНСКІХ ПРАВАСЛАЎНЫХ ЦЭРКВАЎ

29, 30 чэрвеня і 1-га ліпеня мінулага году, у Сьвята-Андрэеўскім Асяродку Ўкраінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША ў С. Баўнд Брук, Нью Джэрзі, адбыліся нарады Епіскапаў і прадстаўнікоў кіруючых органаў трох мітраполіяў. У ліку Епіскапаў прымалі ўдзел:

ад Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША — Мітрапаліт Мсьціслаў, Архіепіскап Марко, Архіепіскап Канстантын.

ад. Украінскае Грэка-Праваслаўнае Царквы ў Канадзе — Мітрапаліт Андрэй, Архіепіскап Барыс і Епіскап Васіль,

ад Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Эўропе і Аўстраліі — Архіепіскап Орэст

На нарадах разглядаліся ўсе праблемы Украінскае Праваслаўнае Царквы.

У нядзелю 1-га ліпеня адзначаўся дзень Украінскага Праваслаўя. У супольнай Сьв. Літургіі прымалі ўдзел усе прыбылыя Епіскапы, лічнае сьвятарства і вялікая грамада вернікаў.

## ПАМЁР СЭРБСКІ ЕПІСКАП ДЫЯНІСІ

Епіскап Дыянісі Мілівоевіч памёр 15 травеня 1979 г. ў Сэрбскім Праваслаўным Манастыры Сьв. Савы ў Альбэртвіле, Ільлінойс.

Сэрбская Праваслаўная Царква паўстала ў ЗША ў 1921 годзе. Першым Ейным епіскапам быў зацьверджаны Сэрбскай Патрыярхіяй Дыянісі. Гэтая Царква мела ў Амэрыцы й Канадзе больш за 60 парафіяў з агульным лікам 65 тысячаў вернікаў. Ад 1947 году пачаліся намаганьні Сэрбскае Патрыярхіі звольніць епіскапа Дыянісія. Гэтая справа цягнулася да 1963 году, калі Патрыярхія прыслала епіскапа Фірмільяна, каб пераняць кіраўніцтва гэтаю Царквою. З таго-ж часу пачаліся судовыя працэсы за царкоўную маемасьць, якое не пагаджаўся перадаць епіскап Дыянісі. Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква утрымоўвала малітвенае спалучэньне з гэтаю Сэрбскаю Царквою.

## ПЕРАШКОДЫ Ў ДЫЯЛЁГУ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ З АНГЕЛЬСКАЮ

**Лёндан, Англія.** Ужо напрацягу доўгіх год праводзілася паразуменьне паміж Праваслаўнаю і Ангельскаю Цэрквамі. Галоўным пытаньнем дыялёгаў было, як знайсьці і ўстанавіць супольнасьць паміж гэтымі цэрквамі. Быў навет час, калі абсэрватары прадбачылі, што паяднаньне хутка можа надыйсьці. Аднак сталася інача́й. У канцы 1979 году адбылася нарада прадстаўнікоў гэтых цэркваў і ў выніку нарады камісія прыйшла да высназу, што ў апошніх гадох паўсталі вялікія розьніцы ў справе веравызнаньня, а таму далей няма патрэбы дыялёгу праводзіць.

Галоўнымі перашкодамі дыялёгу было тое, што яшчэ ў 1978 годзе, перад Канфэрэнцыяй у Лямбэргу, Ангельская Царква папярэдзіла праваслаўных, што калі яны ня прызнаюць пасвячаньня жанчынаў у сьвятарства і іншых спраў маральна-этнічнага характару, то ў далейшых праваслаўным ня прыходзіцца і думаць пра нейкую лучнасьць з ангельцамі.

А, як ведама, ангельская царква на сваёй канфэрэнцыі ў Лямбэргу, пастанову пасьвячэньня жанчын у сьвятарства зацьвердзіла ,і то ня толькі на Англію, але й на Амэрыку, Канаду й іншыя краіны, дзе існуе Англіканская Царква.

# ХРОНІКА

## Парафіі Сьв. БАПЦарквы ў Мэльбурне — Аўстралія.

59-я ўгодкі СлуцкагаЗмаганьня Беларуская грамада ў Мэльбурне і ваколіцы сёлета ўрачыста абыйходзіла 25-га лістапада. Урачыстасьць распачалася **Паніхідай** пры супольным памятніку на беларускім магільніку. На Паніхідзе прысутнічала многа вернікаў-суродзічаў і гасьцей, якія супольна ўзносілі шчырыя малітвы за душы супачыўшых кроўных, знаёмых і суродзічаў. Жалобны сьпеў добра сасьпяванага царкоўнага хору паніхіднымі напевамі ўзрушаў пачуцьці прысутных. Настаяцель а. Аляксандар сказаў прынагоднае глыбокага зьместу слова. Па заканчэньні Паніхіды вернікі, суродзічы і госьці, закончылі ўрачыстасьць супольным пачастункам — пікнікам, што быў зладжаны стараньнем Сястрыцтва пры Парафіі БАПЦарквы, недалёка ад Мэльбурну, у добра ведамым нашаму грамадзтву парку. З прыемнасьцю трэба сьцьвердзіць, што ў урачыстасьці прыняла чынны ўдзел паважная колькасьць нашае моладзі.

19-га і 20-га студзеня, згодна з нашымі традыцыямі і звычаямі Калядных Сьвят, Вадохрышча, настаяцель а. Аляксандар наведаў хаткі парафіянаў-вернікаў з Йарданскай вадою. З радасьцю трэба адзначыць, што нашыя суродзічы ўсьцяж памятаюць і пераказваюць малодшаму пакаленьню належна разумець-рэспектаваць нашыя хвалы годныя традыцыі і звычаі.

2-га лютага 1980 году а. Аляксандар ахрысьціў Пятра, сына Саво і Ольгі Дурыч, і Кацярыну, дачку Срэтана і Эміны Дурыч. Няхай Пётра і Кацярына здаровенькія растуць на пацеху бацьком.

10-га лютага 1980 г. а. Аляксандар ахрысьціў Аляксандру і Караліну, дочкі Дтовада і Дурды Бэсіч. Няхай Аляксандра і Караліна карыстаюцца добрым здароўем, радасным жыцьцём ды посьпехамі ў чынах і ўчынках, угодных Богу ды карысных людзям добрае волі. Дай Божа!

10-га лютага 1980 г. адбыўся Чарговы Справаздачны Гадавы Парафіяльны Сход. Справаздачу здавалі: Старшыня, Скарбнік і Настаяцель Парафіі, з чаго вернікі даведаліся, што жыцьцё і дзейнасьць Парафіі ў мінулым годзе былі задавальняючымі ў выніках.

15-га лютага 1980 г. Летувіскае грамадзтва ў Мэльбурне і ваколіцы абыйходзіла 62-гія ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Літоўскае Дзяржавы. На ўрачыстасьці прысутнічалі прадстаўнікі лічных рэлігійных і грамадзка-палітычных арганізацыяў, улучна з прадстаўнікамі штатных і фэдэральных урадаў, якія выказвалі пагляды ўрадаў у сваіх спачувальных прамовах. На афіцыйную ўрачыстасьць была запрошаная і Мэльбурнская Парафія БАПЦарквы, якую рэпрэзэнтавалі а. Аляксандар з Матушкаю.

## ВЯЧЭРНЯ НА НЯДЗЕЛЮ ПРАВАСЛАЎЯ Ў КЛІЎЛЭНДЗЕ

Ужо напрацягу некалькіх год у Кліўлэндзе правіцца Саборная Вячэрня на Нядзелю Праваслаўя.

У гэтым годзе Саборная Багаслужба правілася з чаргі ў Украінскім Катэдральным Саборы Сьв. Ўладзімера дня 24-га лютага.

Распачалася Вячэрня а 4-тай гадзіне ўвечары. Узначальваў Багаслужбу Мітрапаліт Андрэй у асысьце беларускага, украінскага і сэрбскага духавенства. Экценьні ў украінскай і славянскай мове, прагалошвалі сьвятары, якія прымалі ўдзел у Багаслужбе.

Хорам кіраваў добра дасьветчаны рэгент з украінскае царквы; мелёдыйныя посны напеў пабуджаў вернікаў да малітвенага настрою. Пасьлядоўнасьць вячэрні, якая прысьвячана перамозе праваслаўя ,была ўстаноўлена на Саборы для ўшанаваньня Іконаў, якія ў часе Багаслужбы духавенства выносіць на сярэдзіну царквы для пакланеньня вернікаў.

Пра гісторыю гэтага гістарычнага сьвята праслаўленьня Іконаў палажана пасьля прачытаньне Сьв. Эвангельля прамовіць казань, якую выгаласіў Мітрафорны Пратаерэй Хведар Каваленка. Пасьля выхаду духавенства з Іконамі да вернікаў Мітрапаліт Андрэй прачытаў Сынодыкан, а для сьцьверджаньня нашае вернасьці ў пастанову Сабору паміж Сынодыкану прачытаны быў Сымбаль Веры. Выканаўшы належныя малітвы з паклонамі, Пратаярэй Хведар выгаласіў гучнае мнагалецьце за здароўе і памыснасьць Мітрапаліта Андрэя, Мітрапаліта Мсьціслава і Епіскапа Ірынея, ды кіруючаму Амэрыканскаму Ураду, багалюбнай пастве і ўсім праваслаўным вернікам, якія на выгнаньні і на Бацькаўшчыне знаходзяцца, — пры гучным шматразовым сьпеве хорам „многія леты!"

На заканчэньне Вячэрні Ўладыка Андрэй прывітаў прысутных з урачыстым Днём Праваслаўя, заклікаў моцна трымацца праваслаўнае веры і рэлігійных традыцыяў, шанаваць Іконы і ў добрым здароўі дачакацца Дня Праваслаўя ў наступным годзе. А настаяцель парафіі падзякаваў за ўдзел у Багаслужбе — духавенству і ўсім прысутным малельнікам, ды запрасіў усіх перайсьці ў царкоўную залю на посную вячэру, якую прыгатавала парафіяльнае Сястрыцтва.

**Вернік**

## У 40-вы ДЗЕНЬ СЬМЕРЦІ РЭГЕНТА СЬВ. ПАМ. К. КІСЛАГА

Свой дачасны пабыт на гэтым сьвеце сьв. пам. Канстантын Кісла закончыў на 82-гім годзе свайго жыцьця. Атрымаўшы ад Бога музыкальны талент, пакойны выкарыстаў яго для праслаўленьня Бога, як рэгент хору. Свае рэгенцкія здольнасьці ён праявіў яшчэ на Бацькаўшчыне, кіруючы напрацягу доўгіх год царкоўным хорам. У Бэльгіі абняў кіравецтва студэнцкім хорам у Лювэне, пасьля сьмерці кампазытара сьв. пам. Равенскага. Па прыбыцьці ў Амэрыку Ўладыка Васіль прызначыў яго рэгентам хору ў парафію Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе. Існуючы ўжо зарганізаваны хор ён паставіў на мастацкі ўзровень і выступаў з хорам ня толькі ў часе Багаслужбаў, але і на сьвецкіх імпрэзах, чым рэклямаваў добрае імя беларусаў сярод іншых нацыянальнасьцяў. Гэта была нібы залатая пара ў Кліўлэндзкай парафіі, аднак доля пакіравала інача́й.

Раптам ў 1975 годзе голас ягоны замоўк. Рапто́ўны параліч спрычыніўся да таго, што ён анямеў і ў такім стане застаўся аж да сьмерці. Ніякія лекарскія сродкі не вярнулі яму голасу і не прадоўжылі ягонага жыцьця. Даведаўшыся пра такі стан бацькі, прыехала з Польшчы дачка і забрала яго з сабою ў Беласток, дзе ён і памёр пасьля доўгіх пакутаў Там-жа ў Беластоку і пахаваны на роднай зямлі, хоць цяпер і паняволенай.

Атрымаўшы весткі пра сьмерць незабыўнага рэгента парафіяне пастанавілі годна ўшанаваць ягоную памяць.

Дня 17 лютага сёлета ў 40-вы дзень сьмерці ў Катэдральным Саборы ў Кліўлэндзе была адпраўлена Паніхіда за супакой Ягонай душы. А пасьля Паніхіды ў царкоўнай залі адбыўся памінальны абед, які прыгатавалі парафіянкі для ўшанаваньня яго сьветлае памяці. На абедзе прысутнічала сястра пакойнага з унучкаю і шмат вернікаў. У часе абеду прысуныя падзяліліся ўспамінамі з ягонае ахвярнае працы і пра вялікі ўклад у рэлігійную дзейнасьць, ў выніку якое ён пазаставіў для парафіі вялікі скарбноты. Вечная памяць незабыўнаму рэгенту!

---

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ З КАНСЫСТОРЫІ

### Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

Падаецца да ведама, што сёлетнія Храмавыя Сьвяты ў штатах Нью Ёрк і Нью Джэрсі адбудуцца:

1-га чэрвеня ў Парафіі Сьвятой Тройцы ў Дораты, Нью Джэрзі;

8-га чэрвеня ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, Нью Ёрк, 401 Атлянтык Эве.

У гэты-ж дзень, пасьля Сьв. Літургіі, адбудзецца Паніхіда ў 10-ці лецьце супачыўшага ў Богу блаж. пам. Архіепіскапа Васіля, які ачольваў Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву.

**
*

Нова-высьвячаны Іерей а. Ян Бруцкі, які пераехаў з Дэтройту ў Нью Брансвік, Нью Джэрзі, да Украінскай Сэмінарыі пры Радгерскім Унівэрсытэце, загадам Уладыкі Мітрапаліта прызначаны 2-м сьвятаром пры Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парк, Н. Дж. для адбываньня службэбнай практыкі.

**
*

Пры канцы мінулага году Парафія БАПЦ Сьв. Антона, Яна і Эўстафа ў Мэльбурне ў Аўстраліі, купіла будынак, які перарабляецца на царкву. Праз 20-ці-летні пэрыяд Парафія наймала памяшканьне для адбываньня Божых Службаў. Кіраўніком Парафіі ёсьць Протапрасьвіцер Аляксандар Кулакоўскі. Трэба верыць, што ўсе беларусы аселеныя ў Аўстраліі, прыдуць з дапамогаю да хутчэйшага заканчэньня рэмонтных працаў. Гэта будзе 9-я парафія ў ліку тых, якія маюць уласны царкоўны будынак. Дапаможы Божа!

## УПЛЫВЫ Ў КАСУ КАНСЫСТОРЫІ

### НА ФОНД КУПЛІ АСЯРОДКУ БАПЦАРКВЫ

### 1979 год.

| | |
|---|---|
| Парафія ў Дэтройце | $10.000.00 |
| А. Лук'янчык | 1,000.00 |
| М. Заморскі | 1,000.00 |
| Архімандрыт Язэп | 500.00 |
| Др. Л. Трусэвіч | 500.00 |
| Алесь Міцкевіч | 500.00 |
| Др. Расьціслаў Гарошка | 500.00 |
| Др. Валянтын Гарошка | 500.00 |
| Др. Язэп Сажыч | 300.00 |
| Прат. Васіль Кендыш | 200.00 |
| Лук'ян Мэтал Прод. | 200.00 |
| Аўген Кабяка | 200.00 |
| Віктар Дубяга | 100.00 |
| Міхась Тулейка | 100.00 |
| Віталі Кажан | 100.00 |
| Зэнон Кабяка | 100.00 |
| Мікалай Грэбень | 100.00 |

### 1 9 8 0 год.

| | |
|---|---|
| Ян Гавенчык — Сыднэй, Аўстралія | $508.00 |
| Лук'ян Мэтал Прод. | 500.00 |
| Улад. Мітрапаліт Андрэй | 400.00 |
| М. Скабей, Мэльбурн, Аўстралія | 278.00 |

### НА КАНСЫСТОРЫЮ

| | |
|---|---|
| А. Мароз з Пэрт, Аўстралія | $56.00 |
| Беларуская Асс. Зах. Аўстрал. | 54.00 |
| І. Калоша | 35.00 |
| Аўген Пілецкі | 25.00 |
| Павал Яськевіч | 25.00 |
| Сьцяпан Кірылік | 20.00 |
| Сьцяпан Кісель | 20.00 |
| А. Шастак | 20.00 |
| М. Жызынеўскі | 20.00 |
| А. Махноўскіс | 10.00 |
| Л. Вінніцкі | 30.00 |
| П. і О. Яськевіч | 25.00 |
| (Замест вянка на магілу сьв. пам. Александры Русак) | |



## ПАРАФІЯ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ, НЬЮ ЁРКУ

Парафія ў Нью Ёрку складаецца параўнальна з невялікай колькасьці вернікаў, з якіх некаторыя жывуць па-за Нью Ёркам і наведваюць Царкву радзей, хоць матарыяльна падтрымліваюць царкву ня менш за іншых. Парафія месьціцца ў набытым мураваным двухпавярховым будынку ў Брукліне на Атлянтык Авеню. Будынак прасторны, але стары, і вымагае сталых рэмонтаў. У папярэдніх гадох — у 1978 была рэмантавана фасадная сьцяна звонку коштам 2000 даляраў, у мінулым 1979-м годзе выканана памалёўка залі на першым паверсе і царквы на 2-м паверсе. Калі памалёўка залі выканана сваімі сіламі з коштам зусім невялікім, то памалёўка царквы, сьцен і паднябеньня абыйшлася ў 3000 даляраў. Памалёўку праводзіў добры фаховец, у якога працаваў парафіянін Я. Яновіч; трэба адзначыць, што памалёўка выканана старанна, фахова і чыста.

Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага была першай парафіяй БАПЦарквы ў Амэрыцы, і першымі рэлігійнымі настаўнікамі былі — ужо Сьвятой Памяці — Архіепіскап Васіль і Мітрафорны Пратаерэй Айцец Хведар Данілюк.

## ПАНІХІДА І ПАМІНАЛЬНАЯ БЯСЕДА Ў ПАМЯЦЬ Д-РА АЛЯКСАНДРА ОРСЫ

2-га сакавіка сёлета ў БАПЦаркве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне а. Ян Бруцкі адслужыў Паніхіду, і адбылася памінальная бяседа ў 20-ю гадавіну сьмерці Д-ра Аляксандра Орсы.

Былыя вучні, калегі, сябры й знаёмыя зыйшліся, каб разам з сям'ёй ушанаваць памяць вялікага беларускага патрыёта, пэдагога, грамадзкага і царкоўнага дзеяча. Былі адзначаныя тры асноўныя пэрыяды ў жыцьці й пэдагагічнай дзейнасьці Др. Орсы: Навагрудзкі, Нямецкі і Нью-Ёркскі.

Спадар Анатоль Пляскач, былы вучань Др. Орсы з Навагрудзкай Беларускай Гімназіі падрыхтаваў асноўны рэфэрат-успамін з навагрудзкіх часоў. Рэфэрат прачытала былая вучаніца Д-ра Орсы з Гімназіі Імя Янкі Купалы Сп-ня Зора Кіпель, а Др. Вітаўт Кіпель прыгадаў пра гэты пэрыяд з жыцьця Спадара Дырэктара, як мы ўсе яго звалі.

Васіль Мельяновіч з маладзейшага пакаленьня вучняў Д-ра Орсы успомніў пра школьную й грамадзкую дзейнасьць у Нью Ёрку.

Падзяліліся з прысутнымі сваімі ўспамінамі пра сьв. памяці Аляксандра Орсы й іншыя былыя ягоныя вучні, сябры й калегі: Кастусь Калоша, Міхась Рагуля, Др. Язэп Сажыч, Уладзімер Русак, Кастусь Мярляк, Спадарыня Зінаіда Станкевіч, ды Праф-р Антон Адамовіч.

Бяседа працягвалася пры сталох з пачастункамі, прыгатаванымі сям'ёй св. памяці Др. Аляксандра Орсы. **З-а**

## У ПЕРШУЮ ГАДАВІНУ СЬМЕРЦІ СЬВ. ПАМЯЦІ МІКОЛЫ ГАРОШКІ

У нядзелю 16 сакавіка сёлета Парафіяльная Рада і Сястрыцтва Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, разам з сям'ёй Гарошкаў абыйходзілі першую гадавіну сьмерці сьв. пам. Міколы Гарошкі, былога арганізатара БАПЦарквы і даўгалетняга старшыні Парафіяльнае Рады Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку.

Урачыстую Божую Службу і Паніхіду правілі — Мітр. Прат. а. Карп Стар у суслужэньні з а. Расьціславам Войтэнкам і а. Янкам Бруцкім.

Пасьля Службы ў прыцаркоўнай залі за жалобным сталом адбылася памінальная бяседа. І першымі паміналі — а. Карп, а. Расьціслаў і Старшыня Царкоўнае Рады А. Міцкевіч.

## ПРЫНАЗОЎНІКІ Ў МОВЕ: **ПРАД І ПЕРАД, ПРА І ПРАЗ**

Углядаючыся ў некаторыя пераклады ў беларускую мову рэлігійных тэкстаў, заўважаецца неўласьцівае трактаваньне, а затым і ўжываньне, прыназоўнікаў — прад і перад, пра і праз. Найгорш гэта выглядае ў „Біблі" доктара Янкі Станкевіча. Там зусім адсутнічаюць прыназоўнікі — прад і пра —, а наагул, мова такая, што слушна заўважаюць лепшыя знаўцы мовы, далікатней кажучы: лепш-бы яе ня было, тэй „Біблі".

Калі гаварыць пра першую пару прыназоўнікаў — прад і перад, — то розьніца між імі гэткая, што — перад — мае, сказаць-бы, і зад, ці супрацьлежны бок, альбо паказвае час; прад — ня мае ні пераду ні заду і ніякае супрацьлежнасьці. Да прыкладу прыназоўніка — перад: перад табою — ззаду ў цябе, перад лесам — за лесам, перад рэчкай — за рэчкай, перад летам — па леце, перад сьвятамі — па сьвятах. У прыназоўніка — прад — гэткіх супрацьлежнасьцяў няма. Цьвёрдай мяжы між гэтымі прыназоўнікамі як-бы й няма, але гэта не азначае, што можна зусім выкінуць з мовы прыназоўнік — прад —, як гэта шмат хто робіць.

Можна стаць **прад** Госпадам на малітву (значыць — маліцца Госпаду) кажнаму, у кажным часе і ў кажным месцы; але стаць **перад** Госпадам нельга нікому, нідзе і ніколі. Здавалася-б, кажнаму павінна быць зразумела: Бог ёсьць Дух, усюды прысутны, дык ні пра перад ні пра якую супрацьлежнасьць ня можа быць мовы. Таксама гаворыцца — маліцца прад іконай, бо ня дрэву ці мэталу скіроўваецца малітва, а вобразу таго, хто на іконе. Ёсьць і ў паэзіі, напрыклад, у Багдановіча: „. . .што-ж, пастаў прад абразамі, запаліўшы, сьвечку" (верш „Ян і маці"). Прад абразамі — гэта значыць — абразом, незалежна ці сьвечка паставіцца зьверху, ці сьпераду, альбо і збоку. Ёсьць у Коласа ў „Новай Зямлі" — І вось прад гэтым галамоўзай ня сьмей стаць роўна, але поўзай". Значэньне пераноснае: гэта значыць — яму слугуй, яму дагаджай, яго бойся. Можна прыпушчаць, што Колас ужыў тут прыназоўнік — прад — з вымогі вершаваньня, аднак, ён тут на месцы.

Прыназоўнік — прад — будзе часьцей трапляцца ў мове, ці сказах, духоўнага зьместу, а — перад — у мове пра матарыяльнае. Дзеля таго, выслаўленьне „вінаватым перад намі" (у Малітве Гасподняй) пракуднае тым, што слова — вінаватым — хутчэй адносіцца да матарыяльных даўгоў, а — перад намі — уважней разглядаючы, невядома да каго скіроўваецца: ні то да тых, якія былі перад намі, г. зн. да мінулых пакаленьняў, ні то да тых, якія сьпераду ў нас. Выслаўленьне „павінным (дакладней — правінным) прад намі" зусім адпаведнае. Трэба яшчэ адцеміць, што з прыназоўнікам — прад — утварыліся словы, у якіх гэты прыназоўнік зросься з словам, — гэткія: прадвесьне, прадмесьце, прадмова, прадстаўнік, прадцеча ды іншыя. Слова — прадвесьне — магло-б быць і з прыназоўнікам — перад. Але — прадстаўнік ці прадцеча — з прыназоўнікам — перад — было-б недарэчнае зусім.

Ня менш блытаніны пры ўжываньні прыназоўнікаў — пра і праз. Як ужо зазначалася, у „Біблі" Я. Станкевіча прыназоўнік — пра — адсутнічае, а на яго месца ставіцца прыназоўнік — праз, альбо — празь, — перад мяккім галосным (пачуўшы празь Ісуса (Лук. 7-3); а там, дзе павінен-бы стаць прыназоўнік — праз, ставіцца — перазь (Усё перазь Яго сталася (Ян, 1-3). Але, апрача Я. Станкевіча ніхто гэтым — перазь — не паслугоўваецца, бо гэта раўназначна прыназоўніку — праз. Раней замест прыназоўніка — пра — часта ўжывалі — аб, — напрык., гаварыць — аб кім ці аб чым, — пад уплывам расейскай мовы — (о ком, о чём), тады калі панашаму — пра каго ці пра што. Цяпер прыназоўнік — пра — фактычна варачаецца ў сваю мову. І можна гаварыць пра ўсё, што ёсьць на сьвеце жывое і няжывое, пра малое і пра вялікае.

Гаварыць-жа **праз** штосьь можна толькі праз тое, праз што голас прайходзіць: праз тэлефон, ці праз якую іншую перадачу, праз адчыненае акно ці дзьверы, ці праз іншую атворыну, праз што голас прайходзіць. Але-ж нельга гаварыць — праз сьцену ці праз слуп, ці праз пень. Нельга-ж і ня можна гаварыць ці„вяшчаць **праз** Божую веліч". Але можна гаварыць пра Божую веліч.

Прыназоўнік — праз — будзе на месцы ў сказах: прайсьці праз вёску, ці праз лес, ці праз поле; можна прасеяць штось праз сіта ці рэшата, адцярпець праз каго-сь, (хто быў прычынаю гэтага цярпеньня), перабрысьці праз рэчку (а калі пераплысьці, то — цераз), працадзіць праз цадзілку, часам кажуць — працэджвае словы праз зубы . . .

Асобна трэба ўспамянуць яшчэ пра спробы ўвясьці ў мову слова „Спадар", прыкладаючы яго да Бога, замест слова — Госпад. І трэба адцеміць, што продкі нашыя прынялі хрысьціянства з гэтым назовам — Госпад, і праз тысячу год маліліся Госпаду Богу нашаму. Было пашырана слова Пан, як палянізм, у размовах, але цяпер яго амаль ня ўжываюць. І словам — Пан —, як і — Спадар, „вялічаюць" кажнага чалавека, у тым ліку і жуліка, злодзея, або і разбойніка-душагубцу. Слова-ж — Госпад — у нашай мове прыналежнае толькі да Бога Адзінага. Дык мова нашая пад гэтым узглядам у найлепшым парадку. Няма найменшае патрэбы дачэплівваць як „Пана", так і „Спадара".

## **ЧАМУ РАЗВОДЗЯЦЦА Ў СССР**

Прафэсар Юркевіч, падаючы розныя прычыны разводаў увайходзячых у сужэнства, між іншага і „злоўжываньне сьпіртнога пітва", падае і наяўныя суадносіны між рэгістрацыяй шлюбаў і разводаў.
У 1976 годзе на кажныя тры рэгістрацыі шлюбаў прыходзілася адна рэгістрацыя разводу. А ў гэткіх большых местах, як, скажам, Менск, суадносіны былі трохі іншыя: на кажныя 100 рэгістрацый шлюбаў даводзілася 39 рэгістрацый разводаў". А ў дужках прафэсар „пацешыў":

„Дзеля справядлівасьці неабходна адзначыць, што гэта высокія, але, аднак, ня самыя высокія паказьнікі. У тым-жа годзе ў Швэцыі на сто шлюбаў было 60 разводаў, а ў ЗША — 44".

Ці гэта так, ці ня так, то пацехі з гэтага няма. Ужо прывыклі лёгка глядзець на злучэньне і разлучэньне. Скажам, яшчэ-ж за нашую памяць, прынамсі на Беларусі, і тымбалей на вёсках і мястэчках, бадай ці ня менш як адзін развод трапляўся на тысячу шлюбаў. Пераважна рэлігія дзяржала сужэнцаў у сумесным жыцьці. Кажны, увайходзячы ў сужэнства, уяўляў сабе, што гэта акт надзвычайна важны ў жыцьці, што разлучацца і грэх і няшчасьце ў будзённым жыцьці. Цяпер-жа ўсе застаўкі адчынены. Розныя сацыяльныя тэорыі выэлімінавалі рэлігію з тэй сацыялёгіі, а і з жыцьця людзей. А Ленін падвёў ітог. Памятаецца-ж добра, як перад самым захопам улады пусьціў ён праз агітпроп такую „качку", што рэлігія тут ніпрычым, што пры камунізьме бацьком ня будзе клопату пры гадаваньні дзяцей — гадаваць будзе дзяржава, а бацьком усяго клопату, што на сьвет пушчаць. Некаторым, безразважным, гэта магло імпанаваць.

І вось тут значэньне шлюбу, а пагатоў рэгістрацыі бальшавіцкай, зводзіцца на нішто. А розныя жыцьцёвыя нялады спрычыняюцца да лёгкай пастановы сужэнцаў разыйсьціся.

## ПРЫПАВЕСЬЦЬ ПРА СЫНА БЛУДНАГА

### Эвангельле Лукаша — 15

Кажа Госпад: „Адзін чалавек меў двух сыноў. І сказаў малодшы з іх айцу: — Войча! Дай мне належную частку маемасьці; — і айцец падзяліў ім маемасьць. Па колькіх днёх малодшы сын, забраўшы ўсё сваё, адыйшоў у дальнюю краіну, і там жывучы распусна, растраціў усю маемасьць сваю. Калі-ж пражыў усё, настаў вялікі голад у краіне тэй, і ён пачаў гібець. І, пайшоўшы, прыстаў да аднаго жыхара тэй краіны, які паслаў яго на сваё поле пасьвіць сьвіньні. І ён жадзён быў напоўніць жывот тым струччом, што елі сьвіньні, але і гэтага яму не давалі. Тады, прыйшоўшы да сябе, сказаў: — колькі наймітаў у айца майго збыткуюцца хлебам, а я з голаду гібею. Устану і пайду да айца майго і скажу яму: — войча! зграшыў я супраць неба і прад табою; і ўжо недастойны звацца сынам тваім, але прыймі мяне за аднаго з наймітаў тваіх. — І ўстаўшы, пайшоў да айца свайго. Яшчэ здалёк убачыў яго айцец, і зьлітаваўся над ім, і падбегшы, кінуўся яму на шыю і цалаваў яго. Сын-жа сказаў яму: — войча! зграшыў я супраць неба і прад табою, і ўжо недастойны звацца сынам тваім. — Але айцец сказаў слугам сваім: — прынясеце хутчэй найлепшае адзеньне і адзеньце яго, і дайце персьцень на руку ягоную і абутак на ногі. І прывядзеце кормнага падцёлка і забеце; будзем есьці і весяліцца. Бо сын мой гэты быў умершы і ажыў, быў загінуты і знайшоўся. Старэйшы-ж сын яго быў на полі, і калі ён варачаўся і падыйходзіў да дому, пачуў сьпевы і скокі. Тады, падклікаўшы аднаго слугу, спытаўся, што гэта такое? Той-жа сказаў яму: — гэта брат твой прыйшоў, і айцец твой забіў кормнага падцёлка, што спаткаў яго здаровым. — І ён узлаваўся і не хацеў увайсьці; айцец, выйшаўшы, клікаў яго. Але ён у адказ айцу сказаў: — вось я колькі гадоў служу табе, і ніколі не пярэчыў прыказаньням тваім; але ты ніколі і казьляняці ня даў мне, каб павесяліцца з сябрамі маімі. А калі гэты сын твой прыйшоў, распусьціўшы маемасьць тваю з блудніцамі, ты забіў для яго кормнага падцёлка. Айцец-жа сказаў яму: — Сыне мой! Ты заўсёды пры мне, і ўсё мае тваім есьць. А з таго трэба цешыцца і радавацца, што гэты брат твой быў умершы і ажыў, быў загінуў, і знайшоўся.

---

## ПАДЗЯКА

Атрыманы чэк на 10 даляраў ад Леаніда Вініцкага, як ахвяра на „Голас Царквы", і перададзены ў Касу Кансысторыі БАПЦарквы, якая фінансуе выданьне часапісу.

**З удзячнасьцю — Рэдакцыя**